**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

**№42(654)**
**18 кастрычніка 2012 года.**
**Кошт свабодны.**




## Асаблівасці кіравання аўтамабілем у складаных кліматычных умовах

■ **Завадскі А.І.,**
*часовы выканаўца начальніка АДАІ Глыбоцкага РАУС, маёр міліцыі.*

**Зіма не за гарамі, ужо раніцай лёгкая галалёдзіца, хутка пойдзе мокры снег, ужо пачаліся невялікія замаразкі, аўтааматарам ізноў даводзіцца прыстасоўвацца да кіравання аўто ў дрэнных умовах надвор'я, якія адмоўна ўплываюць на бяспеку дарожнага руху, і тым часам ад кіроўцы патрабуюцца адмысловыя веды і навыкі кіравання.**

Прадбачлівыя кіроўцы загадзя змяняюць летнюю гуму на зімовую. Яны выдатна ведаюць, што пры 7 градусах ніжэй за нуль, гума летніх шын пачынае грубець, а гэта значыць, што знікае моцнае счапленне з дарожным пакрыццём. Тармазны шлях пры гэтым павялічваецца ў параўнанні з сухім пакрыццём амаль у 10 разоў пры адной і той жа хуткасці.

Апалая мокрая лістота часцяком становіцца прычынай здзяйснення аўтаавароў, бо калі яна трапляе пад колы на закругленні дарогі, гэта можа прывесці да рэзкай змены становішча аўтамабіля на дарозе, г.зн. заносу з выкідам на сустрэчную паласу або з дарогі. Таксама лістота небяспечная і пры тармажэнні, таму што павялічваецца тармазны шлях.

На гладкім лёдзе не заўсёды дапамагае пасыпка дарогі пяском, г.зн. ён скочваецца коламі аўтамабіляў ці змятаецца ветрам. Таму кіроўцы павінны быць заўсёды напагатове, каб не паддавацца памылцы, якая сведчыць пра тое, што пасыпаная пяском дарога не з'яўляецца слізкай.

Падчас руху па абледзянелай дарозе лепш не карыстацца тармазамі для зніжэння хуткасці, калі толькі ў выпадку прыпынку. Тут патрабуецца асаблівае майстэрства: маніпулюючы перарывістым націскам на педалі тормазу і газу, тармазіць так, каб колы не зрываліся ў юз ці буксавалі.

Свежавыпаўшы снег пры галалёдзе яшчэ больш павялічвае небяспеку, бо мае ролю своеасаблівай змазкі паміж коламі машыны і лёдам.

Раптам зменлівыя ўмовы надвор'я ў сваю чаргу выклікаюць цяжкасці ў аўтааматараў: лабавое шкло пакрываецца снегам, часціцамі бруду, а шклоачышчальнікі ачышчаюць толькі частку шкла, што памяншае поле бачнасці, пешаходы запаволена рэагуюць на рух аўтамабіляў і сігналы, якія падаюцца ім, снег і вада часта трапляюць да тармазных калодак, змяншаючы эфектыўнасць дзеяння тармазоў.

Дзяржаўтаінспекцыя звяжае на асаблівасці бяспечнага кіравання ў асеннезімовы перыяд і нагадвае, што спалучэнне ведаў, навыкаў кіравання ў розных дарожных акалічнасцях і ўмовах надвор'я дапамагае пазбегнуць дарожна-транспартных здарэнняў.

**Паважаныя кіроўцы!** Будзьце сабранымі, уважлівымі і асцярожнымі на дарозе, асабліва пры руху ў складаных умовах надвор'я. Калі вы не ўпэўненыя ў сваіх навыках кіравання ў складаных кліматычных умовах, не выпрабоўвайце лёс, адкладзіце свае паездкі. Гэтым вы захаваеце не толькі сваю машыну, а і галоўнае – жыццё.

## МНС інфармуе
**на 16.10.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 913;
Гібель людзей – 114, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 4987.1 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 37;
Гібель людзей – 6, з іх дзяцей няма;
Урон – 264 650 000 руб.

**Полацкі раён**

# Нядоўга музыка гучала

■ Чэслаў Якубовіч

**Сёлета паўсюдна ў Прыдзвінні сутыкнуліся з моцным крызісам у будаўнічай галіне і значным адтокам прафесіяналаў на работу за граніцу.**

Жыллёвая праграма калі і выконваецца, то ў асноўным за кошт аб'ектаў, якія трэба было ўвесці яшчэ ў 2011 годзе. Не набралася і паловы жадаючых узвесці ў Полацку новы 40-кватэрны жылы дом за ўласныя зберажэнні гараджан. Увогуле пад пагрозай зрыву апынулася Комплексная праграма развіцця самага старажытнага горада краіны. Эканамічны раздрай прывёў да таго, што адклалі на нявызначаны час будаўніцтва пешаходнага маста праз Заходнюю Дзвіну. У сувязі з недахопам сродкаў шэраг важных аб'ектаў, сярод якіх узвядзенне радзільнага дома, з праграмы навогул выключаны, хоць на ім вялися падрыхтоўчыя работы. Узамен мясцовым парадзіхам прапанавана абслугоўвацца ў суседнім Наваполацку. Не будуць будавацца і новыя медустановы, якія пакуль размяшчаюцца на тэрыторыі гістарычнага Верхняга замка, дзе ствараецца турыстычны цэнтр. Анкалагічны дыспансер і іншыя медустановы адсюль будуць перасёлены ў карпусы мясцовай гарбальніцы. Сотні млрд. рублёў пойдуць на новыя турыстычныя аб'екты паблізу Сафійскага сабора і вакол берагоў ракі Палаты. Між тым, у горадзе ёсць неабходнасць пабудаваць нават 3 новыя дзіцячыя садкі, а пачата ўзвядзенне толькі аднаго з іх. Вырашана, што горад абыдзецца і без Палаца гульнявых відаў спорту, бо і моцных каманд тут няма. Адзінае, што пашанцавала былому Дому афіцэраў. У ягоным вялікім памяшканні замест гістарычнага музея пасля рэканструкцыі размесціцца культурна-дзелавы цэнтр з сучаснай канцэртнай залай, якой дагэтуль тут не было.



**Мёрскі раён**

# Край журавін і ... жураўлёў

■ Станіслаў Раманчук

**Што можа быць цудоўней для чалавека, як нетаропка ў вольны час паблукаць сярод лясной цішыні, падыхаць чысцюткім паветрам і палюбавацца фарбамі надышоўшай восені.**

У Мёрскім раёне асноўным прыродным багаццем быў і застаецца гідралагічны заказнік "Ельня" з буйнейшым у Еўропе масівам верхавых балот. Менавіта таму ў гэтай мясцовасці днямі правялі першае ў Беларусі незвычайнае свята жураўля і журавін. Напярэдадні яго ў ваколіцах агрмістэчак балот аматары прыроды, сярод якіх было шмат дзяцей з навакольных вёсак, правялі назіранне і падлік гэтых прыгожых птушак перад іх адлётам у вырай. З дапамогай магутнай оптыкі і бінокляў было па праекту ПРААН аховы акружаючага асяроддзя ўстаноўлена, што ў Ельні сярод унікальных карлікавых бярозак і багатых журавінных запасаў гняздзяцца каля 4 тысяч жураўлёў і амаль 10 тысяч дзікіх гусей. У гэту пару года людзі не толькі з Мёршчыны, але і з іншых мясцін імкнуцца на балоты назбіраць вітамінных запасаў. А вось птушкі актыўна ў паветры трэніруюцца, збіраюцца ў вялікія групы перад далёкай дарогай. Для ўсіх жадаючых арганізавалі назіранні за дзікай прыродай. Можна было пабачыць распарадак дня птушак, як кормяцца на палях журавы. На гэтым святе таксама частавалі рознымі прысмакамі з журавін. Актывісты вядомай арганізацыі "Ахова птушак Бацькаўшчыны" здзівілі ўсіх тым, што вырабілі з паперы самага вялікага беларускага жураўля.

**Пастаўскі раён**

# Сяляне без заробкаў

■ Кастусь Александровіч

**І на прайшоўшых пар— ламенцкіх выбарах жыхары менавіта сельскай мясцовасці галасавалі, як і раней, намнога актыўней за гараджан.**

Вось і ў Пастаўскім раёне вяскоўцы паўсюдна забяспечылі рэкордную яўку на ўчасткі, у многіх месцах аддалі свае галасы, як прасілі, датэрмінова. Аднак выбары прайшлі і ўпершыню за апошнія 6 гадоў у пачатку кастрычніка ў раёне сутыкнуліся з непрыемнай з'явай нявыплат яшчэ жніўеньскіх заробкаў. Хоць на самой справе ставілася задача выдаць заробленыя грошы людзям раней, напярэдадні выбараў у Палату прадстаўнікоў. Але заробленых рэсурсаў не хапіла і адразу 6 сельгаспрадпрыемстваў і мясцовы льнозавод сталі даўжнікамі. У гэтым спісе, што не дзіўна, калгасы, якія не могуць пахваліцца высокай ураджайнасцю збожжа, у іх нізкія надоі і прывагі жывёлы на фермах. У дадатак шмат сродкаў пайшло на рэканструкцыю па загаду зверху жывёлагадоўчых памяшканняў. Раней усіх такіх гаротнікаў выручаў Пастаўскі малочны завод, выдаў наперад крэдытаў пад закупкі малака на некалькі гадоў наперад, нават на 36 млрд. рублёў. Верагодна, сітуацыя ў эканоміцы даволі сур'ёзная, што і мясцовы льнозавод не атрымаў крэдытаў пад будучыя пастаўкі льновалакна, за якое таксама са скрыпам разлічваецца з партнёрамі Аршанскі льнокамбінат. Праўда, намаганнямі начальства неўзабаве сяляне грошы атрымалі, але з нізкім узроўнем гаспадарання такія запазычанасці па зарплаце могуць паўтарыцца.

# Лічба нумара

**53** гады – такі сярэдні ўзрост новага складу зноў абранай Палаты прадстаўнікоў чарговага склікання пасля падвядзення канчатковых вынікаў вераснёўскіх выбараў Цэнтрвыбаркамам Беларусі. Самыя, напэўна, ціхія, спакойныя і, па-сутнасці, сумныя выбары па прызнанні грамадства і нязменнай на сваёй пасадзе самой Лідзіі Ярмошынай сталі набыткам гісторыі. Дарэчы, беларусы даўно пераканаліся, што ў нашай краіне палітычная барацьба за мандаты шляхам параўнання ідэй далейшага развіцця дзяржавы актыўна не вядзецца, гэта вам не Грузія.

І ўжо на сёння, 18 кастрычніка прызначана пасяджэнне першай арганізацыйнай сесіі новага парламента з абмежаванымі паўнамоцтвамі, аўтарытэт якога ў грамадстве крайне нізкі. Пакуюць чамаданы нават 89 папярэдніх дэпутатаў-палатнікаў. Яны нічым не запомніліся за 4 гады сядзення ў Авальнай зале за добрыя грошы. Прозвішчы такіх парламентарыяў большасць з нас наўрад ці ўспомніць, бо які ж гэта парламент, які не падаў ніводнай заканадаўчай ініцыятывы, не ўзвысіў свой голас, калі летась імкліва раслі цэны і падаў жыццёвы ўзровень, валіўся ў бездань беларускі рубель.

Але маем тое, што заслужылі. Вось і цяпер структура новага дэпутацкага корпуса была цалкам прадказальнай, пераважную большасць, звыш 60 чалавек складаюць прадстаўнікі правячай неафіцыйнай партыі, руху "Белая Русь". Нават прапорцыю гендэрнага складу захавалі: у парламенце ёсць 29 жанчын (26,6%) на 109 месц. А дамініруючай сілай, як і планавалася загадзя, будзе прэзідэнцкая вертыкаль, прадстаўнікі якой занялі чвэрць крэслаў, альбо 27 месц. У дадатак ім і 21 дзеючы дэпутат ПП РБ.

У новым айчынным парламенце, у адрозненне ад замежных, мала юрыстаў, эканамістаў і ўплывовых палітыкаў. Аднак сюды мы выбралі 21 гаспадарніка, 13 работнікаў сферы адукацыі і па 7 людзей у пагонах і ў белых халатах. Як і чакалася, міжнародныя назіральнікі (сябры з СНД сюды не ўваходзяць) не прызналі прайшоўшыя выбары стандартам АБСЕ, звыклым нормам дэмакрытыі. Да аналагічнай высновы прыйшлі таксама Еўрасаюз, Еўрапарламент, ЗША, беларускія праваабаронцы і апазіцыйныя структуры, якіх у нас абразліва называюць "пятай калонай".

Можна па-рознаму адносіцца да такіх ацэнак, называць іх прадузятай "пенай". І хоць сёлета, трэба прызнаць, адміністрацыйны рэсурс на выбарах выкарыстоўваўся меней, чым раней. Але ж толькі сляпы не можа не бачыць, як ціхенька прымушалі да датэрміновага галасавання студэнтаў, ваеннаслужачых і дзяржчыноўнікаў. Праўда, у гэтым годзе не ставілася, сапраўды, задача мабілізаваць да гэтага "ноу-хау" айчыннай практыкі прыйсці на ўчасткі рабочы клас і ў выніку канчатковая лічба прыняўшых удзел у галасаванні склала 74,6 % ад колькасці выбаршчыкаў.

Найбольш "несвядомымі" аказаліся: беларуская сталіца, буйныя гарады, дзе многія не пайшлі выбіраць дэпутатаў. Арганізаваць татальнае назіранне не ўдалося ні на адным са 110 выбарчых участкаў. Міжнародныя місіі прызналі, што не мелі магчымасць праканталіраваць з-за вялікіх аб'ёмаў датэрміновага галасавання рэальную яўку выбаршчыкаў. Апазіцыя сцвярджае, што ў Мінску 2/3 выбаршчыкаў не прымалі ўдзелу ў выбарах, бо афіцыйная статыстыка ўдзелу ў іх адрозніваецца ў сярэднім нават на 18,8 % ад падлікаў незалежных назіральнікаў.

Асабліва на Захадзе лічаць, што ў нас сёлета, нягледзячы на шэраг станоўчых змен у выбарчым праве, не прытрымліваліся прынцыпаў правоў грамадзян на свабоду сходаў, на права быць кандыдатам і права на свабоду выказвання іх пазіцый. У выніку ніякіх змен на беларуска-еўрапейскія адносіны, на адносіны з ЗША пасля выбараў не будзе. Застарэлыя праблемы не будуць вырашацца без вызвалення з турмаў палітвязняў, вяртання шведскага пасла ў РБ. Як і раней, не змогуць жыхары прыгранічных раёнаў без віз наведваць ў Польшчу і Літву, хоць суседзі даўно да гэтага гатовы. Ды і сам парламент, хутчэй усяго, застанецца такім, які ён быў і раней.

Нам толькі абяцаюць мадэрнізацыю айчыннай палітычнай сістэмы. Аднак нават у СГА ў лепшым выпадку ўслед за казахамі мы ўступім не раней, чым праз 2 гады. А там можна чакаць і стварэння рэальна дзеючай партыі ўлады і моцнай фракцыі "Белай Русі" тыпу "Адзінай Расіі", як у нашых саюзнікаў-суседзяў. А пакуль галасуй, не галасуй - усё роўна атрымаеш … запланаваны канчатковы вынік. Праводзіць выбары, каб камар носа не падточыў, у нас навучыліся, вось так лепей атрымоўвалася б спраўляцца з эканамічнымі праблемамі.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 18.10.12 | | | | Пятніца 19.10.12 | | | | Субота 20.10.12 | | | | Нядзеля 21.10.12 | | | | Пнд.22.10.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +6 | +5 | +10 | +7 | +6 | +6 | +14 | +8 | +7 | +7 | +14 | +9 | +8 | +10 | +12 | +8 | +5 | +2 | +5 |
| Ціск | 750 | 752 | 753 | 753 | 753 | 753 | 753 | 752 | 752 | 751 | 751 | 749 | 748 | 748 | 750 | 753 | 755 | 757 | 759 |
| Вільготнасць | 95 | 97 | 69 | 87 | 92 | 91 | 60 | 85 | 89 | 88 | 59 | 80 | 91 | 96 | 74 | 89 | 86 | 79 | 50 |
| Вецер м/сек | 2 Пн-З | 4 З | 4 Пд-З | 3 Пд | 3 Пд | 3 Пд | 5 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 3 Пд | 5 Пд | 4 Пд-З | 4 Пд-З | 6 З | 6 Пн-З | 4 Пн | 4 Пн | 6 Пн | 5 Пн |

## Дзень за днём

**На наступны 2013 год у РБ дырэктыўна запланавалі эканамічны рост ВУП на 8,5 % і павелічэнне спажывецкіх цэн за год на 12 %, а дзяржбюджэт будзе бездэфіцытным. Чарговы пераразлік пенсій для састарэлых людзей зробяць у лістападзе. Неспадзявана ў IV квартале Расія вырашыла скараціць пастаўкі нафты ў Беларусь на чвэрць - 1,4 млн. тон. З новага года "Газпрам" павысіць для беларусаў на 12 % цану на газ, яна вырасце да 185 $. Ва ўрадзе пацвердзілі, што пытанне адмены кантрактнай сістэмы не разглядаецца, гэта сістэма дзейнічае ў нас больш 10 гадоў. Дэнамінацыя беларускіх грошай будзе, але не раней, як праз год.**

# Важнейшыя навіны свету

**Іспанія.** Урад аўтаномнай вобласці Каталоніі на 25 лістапада прызначыў датэрміновыя рэгіянальныя выбары, фактычна рэферэндум наконт пытання аб аддзяленні ад Іспаніі.

**Бельгія.** ЕС і Еўрапарламент заявілі, што выбары ў Беларусі не адпавядалі міжнародным дэмакратычным стандартам, кантакты з яе Палатай прадстаўнікоў не будуць аднаўлены.

**Германія.** Замест партнёрства з Еўропай, як сказаў афіцыйны прадстаўнік урада ФРГ Ш. Зайберт, А. Лукашэнка выбраў курс на рэпрэсіі, страх, для народа краіны – гэта трагедыя.

**Украіна.** Услед за Расіяй урад краіны ўвёў з 1 снежня пошліны на імпарт нафтапрадуктаў з Беларусі, беларускі дзяржбюджэт панясе страты ад гэтых мер у памеры каля 3 мільярдаў долараў.

**ЗША.** Умовай паляпшэння двухбаковых адносін РБ з ЗША назваў Дзярждэпартамент вызваленне і рэабілітацыю палітвязняў, выбары ў парламент прызнаў несправядлівымі.

**Францыя.** Вярхоўны прадстаўнік ЕС па знешняй палітыцы Кетрын Эштан вітала вызваленне з турмы палітвязня С. Каваленкі, заклікала Мінск да новых такіх крокаў.

**Расія.** Расійскае Таварыства абароны спажыўцоў падало заяўку ў Сінод РПЦ з просьбай пазбавіць патрыярха Кірыла (Гундзяева) сану за імкненне да раскошы, ліхвярства.

**Калумбія.** Ваенныя маракі ў прыбярэжных водах канфіскавалі 1,6 тоны наркотыкаў какаіну з двух лодак з падвойным дном, затрымалі яшчэ трох кур'ераў мясцовай наркамафіі.

**В'етнам.** Камітэт ААН па правах чалавека асудзіў арышт і зняволенне ў турме трох вядомых блогераў за быццам антыўрадавую прапаганду існуючых парадкаў у краіне.

**Малдова.** Парламент краіны большасцю галасоў адхіліў прапанову фракцыі камуністаў аб правядзенні ўсенароднага рэферэндума аб далучэнні малдаван да Мытнага саюза ў СНД.

**Германія.** Навуковая бібліятэка горада Герліц прэзентавала ўпершыню Біблію Францыска Скарыны 1517 года выдання падчас тыдня Германіі ў Мінску ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

**Іран.** Урад краіны блакіраваў доступ да пошукавага сайта Gooqle у Інтэрнэце, каб іранцы не маглі прагледзець скандальны фільм "Невінаватасць мусульман" на відэа You Tube.

**Ватыкан.** Па даручэнні Папы Рымскага архіепіскап Клаўдзіе Гуджэроцці сустрэўся ў розных турмах Беларусі з 6 вядомымі палітзняволенымі, падтрымаў іх і сем'і маральна.

**Германія.** Падчас вянчання ў храме маладой пары ў Баварыі памёр на цырымоніі 47-гадовы пастар, маладыя ў той дзень абвянчаліся праз некалькі гадзін ужо ў іншай царкве.

**Расія.** За 500 дзён да адкрыцця Зімовай Алімпіяды-2014 у Сочы яе аргкамітэт назваў галоўны слоган прадстаячых Гульняў чалавецтва: "Гарачыя. Зімовыя. Твае".

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Старшыня праўлення Нацбанка РБ Н. Ермакова прызнала, што ў верасні сёлета яшчэ больш вырас попыт насельніцтва на наяўную валюту, яе пакуль хапае ў банкаў.

**Салігорск.** Кіраўнік Збербанка РФ Герман Грэф пацвердзіў, што яго банк прадоўжыць рэфінансаванне крэдыту "Беларуськалія" 1 мільярда долараў, бо РБ не можа пакуль выплаціць.

**Гомель.** Па адзінай у РБ выбарчай акрузе № 36 прызначаць паўторныя выбары, экс-памочнік прэзідэнта Ігар Пракапенка тут перадумаў прэтэндаваць на мандат дэпутата.

**Мінск.** Прэс-сакратар БПЦ айцец Сергій Лепін рэзка раскрытыкаваў ініцыятыву праваслаўнага пратаірэя У. Чапліна пра рэферэндум аб аб'яднанні РФ, Украіны і Беларусі.

**Брэст.** Воіны 383-га батальёна мясцовай мабільнай брыгады сталі сведкамі гібелі на сумесных вучэннях пад Псковам з баявой стральбой расійскага палкоўніка, камандзіра палка.

**Мінск.** Пасольства Кыргыстана ў РБ пацвердзіла, што на радзіме суд пачне завочна судзіць за забойства братоў Бакіевых, якія знайшлі прытулак у беларускай сталіцы.

**Барысаў.** Мясцовай прыватнай фірме "Экапрамэнерга" ўлады дазволілі купіць комплекс будынкаў піўзавода ў Гродне 1877 года пабудовы, зрабіць у іх гасцініцу і піўны рэстаран.

**Гродна.** Ноччу падчас рыбалкі на возеры ля вёскі Азёры патанулі двое рыбакоў на глыбіні ў чалавечы рост, калі перакулілася іх лодка на адлегласці ўсяго 10 метраў ад берага.

**Слуцк.** Ноччу ля вёскі Сарагі п'яны міліцыянер на сваёй машыне вылецеў з дарогі, урэзаўся ў бетонную агароджу маста, перакуліўся, у ДТЗ загінула 16-гадовая школьніца.

**Гомель.** Услед за арыштам 4-х супрацоўнікаў УКСа гарвыканкама быў арыштаваны і 49-гадовы былы мэр горада В. Піліпец, раней памочнік прэзідэнта па Віцебскай вобласці.

**Бабруйск.** У мясцовай калоніі асуджаны праваабаронца Алесь Бяляцкі даведаўся, што яго ўзнагародзілі прэміяй Дзярждэпартамента ЗША за дзейнасць па абароне правоў чалавека.

**Маладзечна.** 53-гадовы жыхар горада разам з дачкой, зяцем і ўнучкай сталі ахвярамі ДТЗ па віне 21-гадовага сталічнага вадзіцеля-пачаткоўца, які зрабіў няўдалы абгон на трасе.

**Івацэвічы.** Былы начальнік мясцовага СІЗа Станіслаў Халадовіч адкрыта звярнуўся да калег, супрацоўнікаў Мазырскай калоніі спыніць здзекі над лідарам "МФ" З. Дашкевічам.

**Столін.** Праз некалькі гадзін пошукаў ноччу міліцыі і ляснікам удалося знайсці 8 жанчын з вёскі Альманы, яны заблудзіліся ў лесе на балоце пры зборы журавін, але мелі мабільнікі

**Нясвіж.** Палацапаркавы музей-запаведнік распрацаваў новы маршрут для турыстаў з наведваннем падземнага хода пад абарончымі збудаваннямі мясцовага замка.

# У Беларусі ўвядуць тры віды тарыфаў на энергарэсурсы



■ 5min.by

**Беларускі ўрад прыняў рашэнне аб падрыхтоўцы праекта пастановы, згодна з якім у краіне будуць уведзеныя дыферэнцыраваныя тарыфы на энергарэсурсы для насельніцтва.**

Паводле паведамлення прэс-службы Саўміна, якое было распаўсюджанае па выніках пасяджэння 10 кастрычніка, у Беларусі прапануецца ўсталяваць «сацыяльныя аб'ёмы спажывання, павышаныя і максімальныя, і адпаведныя тарыфы».

Адзначаецца, што пасля ўвядзення дыферэнцыраванай аплаты будуць ліквідаваны існуючыя перакосы, калі максімальныя аб'ёмы спажывання прыроднага газу і электраэнергіі асобнымі грамадзянамі датуюцца з дзяржаўнага бюджэту.

Варта адзначыць, што «сацыяльны пакет» плануецца захаваць у межах цяперашніх аб'ёмаў, якія спажываюць 80% беларусаў, піша «Інтэрфакс-Захад».

Пры гэтым, нягледзячы на ўвядзенне шкалы тарыфаў, урад працягне іх павелічэнне да ўзроўню поўнага пакрыцця сабекошту паслуг.

«Для ліквідацыі цэнавых дыспрапорцый, будзе адбывацца паэтапнае павышэнне ўзроўню» базавага «тарыфу на прыродны газ і электрычную энергію, у прывязцы да тэмпаў росту зарплаты і іншых даходаў насельніцтва», - адзначае прэс-служба Саўміна.

5min.by нагадвае, Міністэрства ЖКГ прапанавала зноў вярнуцца да сістэмы безнаяўных жыллёвых субсідый на камунальныя паслугі, каб абараніць грамадзян з нізкімі даходамі.

Раней безнаяўная жыллёвая субсідыя прадугледжвалася для гараджан, у якіх плата за камунальныя паслугі перавышала 20% ад прыбытку, і для вяскоўцаў, аддаваць на пагашэнне ЖКП больш за 15% сямейнага бюджэту.

Чалавек атрымліваў розніцу паміж сумай названай платы і сумай складніку 20% (15%) сукупнага даходу, якая накіроўвалася на субсідаванне ЖКП.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Практычна без работнікаў застаўся мясцовы ДБК з-за масавых звальненняў будаўнікоў, яго завод КПБ прастойвае, страты камбіната за 7 месяцаў склалі 32,1 мільярда долараў.

**Полацк.** З-за недахопу сродкаў у горадзе адклалі будаўніцтва пешаходнага маста праз Дзвіну, Палаца спорту, поўнасцю спынена назаўсёды і ўзвядзенне радзільнага дому.

Шаркаўшчына. Экскандыдат у прэзідэнты Беларусі, кандыдат у дэпутаты Віктар Цярэшчанка заявіў, што вынікі выбараў па мясцовай акрузе № 29 былі сфальфікаваныя.

**Віцебск.** Глава вобласці А. Косінец зноў паабяцаў, што да канца 2015 года ў кожным райцэнтры з'явіцца фізкультурнааздараўленчы комплекс з плавальным басейнам.

**Фарынава.** Інвестары з Расіі ўклалі ўжо 1 млн. долараў у рэканструкцыю былога домабудаўнічага камбіната, да канца года сюды завязуць і новае абсталяванне для працы.

**Мёры.** За незаконную здабычу двух дзікіх кабаноў жыхар райцэнтра заплаціў штраф 7 мільёнаў рублёў, пазбавіўся стрэльбы, за шкоду прыродзе яшчэ выклаў з кішэні 12 мільёнаў.

**Віцебск.** Вакол абласнога цэнтра пачаўся рух па новай аб'язной дарозе з мостам ад Старааршанскай трасы да транспартнай развязкі на Полацк коштам 303,5 млрд. рублёў.

**Глыбокае.** Ва ўрачыстай абстаноўцы на гістарычнай радзіме праслаўленага савецкага авіяканструктара Паўла Сухога ў райцэнтры адкрылі помнік славутаму земляку.

**Браслаў.** З моцнымі апёкамі цела 1-4-й ступені трапіў у райбальніцу пенсіянер з вёскі Апанасішкі-1, калі няўдала спрабаваў распаліць кацёл для прыгатавання ежы вывёле.

**Лёзна.** На панадворках буйной вёскі Бабінавічы засталося 27 кароў, з якіх 10 адна трымае лепшы малаказдатчык раёна пенсіянерка В. Абжэльтэне, за год прадае да 40 тон малака.

**Полацк.** Канцэрты арганнай музыкі ў Сафійскім саборы сталі генеральнай рэпетыцыяй XVII Міжнароднага музычнага арганнага фестываля "Званы Сафіі" з удзелам 5 краін.

**Віцебск.** З прашэннем аб памілаванні да А. Лукашэнкі звярнуўся Сяргей Каваленка, які быў асуджаны за вывешванне бел-чырвона-белага сцяга і быў вызвалены з калоніі.

**Докшыцы.** Пасля выязнога прыёму грамадзян у Крыпульскім сельсавеце да радасці жыхароў вёскі Барсукі ў іх адрамантавалі вулічнае асвятленне і прасёлачную дарогу.

**Шаркоўшчына.** Спецыялісты Дзяржкантролю выявілі шматлікія прыпіскі прываг БРЖ і дадзеных аб ураджаі ў калгасе "Княж", тут знайшлі 1532 млн. рублёў дадаткровых страт.

**Орша.** Невядомыя вандалы зламалі масіўны крыж з надпісам "Героям Аршанскай перамогі" побач з мемарыяльным камнем на беразе ракі Крапівенкі, раней узаралі поле.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Поспехі глыбоцкіх баксёраў

■ Яўген Самсонаў

**Уражайным на медалі, для глыбоцкіх майстроў скуранай пальчаткі выдаўся баксёрскі турнір, які праходзіў з 4 па 6 кастрычніка ў Магілёве ў праграме Рэспубліканскай Спартакіяды сярод спецылізаваных вучэбна-спартыўных устаноў прафсаюзаў. Чацвёра спартоўцаў з Глыбоччыны дамоў вярнуліся з медалямі.**

Трое выхаванцаў баксёрскага клуба "Рынг" трэнера вышэйшай катэгорыі Віктара Калягі парадавалі свайго настаўніка камплектам медалёў. Залатую ўзнагароду заваяваў Аляксандр Ганчаронак, якому не знайшлося роўных у вагавай катэгорыі 48 кілаграмаў. Вадзім Нікалаеў і Нікіта Шчарбіцкі, якія выступалі ў вагавай катэгорыі 57 кілаграмаў, былі ўганараваныя адпаведна сярэбранымі і брозавымі ўзнагародамі.

Усё большы аўтарытэт у межах краіны ды і на міжнародных спаборніцтвах заваёўвае і другая на Глыбоччыне школа боксу – Падсвільская, – дзе трэнерам працуе былы выхаванец В. Калягі, шматразовы чэмпіён РБ па боксе, майстар спорту, Дзяніс Заяц. Яго выхаванец Максім Курылёнак, які адстойваў гонар Глыбоцкага краю ў Рэспубліканскай Спартакіядзе ў вагавай катэгорыі 60 кілаграмаў, папоўніў скарбонку ўзнагарод падсвільчан бронзавым медалём.



**На здымку:** злева направа Н. Шчарбіцкі, трэнер В. М. Каляга, В. Нікалаеў і А. Ганчаронак.

# Конкурс «Народны журналіст» працягваецца да 1 лістапада!

**«Народныя журналісты» — не прафесійныя рэпарцёры. Яны хочуць вырашыць важную для сябе і мясцовых людзей праблему, таму смела і гучна кажуць пра яе. Найлепшыя працы з'явяцца друкам, на DVD-дысках, прапанаваныя незалежным газетам, радыё, «Белсату». Пераможцы атрымаюць ва ўзнагароду камп'ютар, відэакамеру, магчымасць кароткага стажу за мяжой.**

Многія ў Беларусі не вераць, што могуць паўплываць на сітуацыю — і ў сваёй мясцовасці, і ў краіне ў цэлым. Часта гэта вынікае з недахопу інфармацыі.

Мэта конкурсу — заахвоціць здольных сказаць пра мясцовую праблему так пераканаўча, што дзеля яе вырашэння людзі аб'ядноюцца.

**ПРАБЛЕМА** звязаная з пэўным паселішчам, раёнам, прадпрыемствам, установай, прафесійнай ці іншай групай.

Праблема для грамадства значная, яна не абмяжоўваецца дробнымі недапрацоўкамі камунальнікаў. Гэта тое, што не апублікуе «Советская Белоруссия» і не пакажа БТ. Гэта і адсутнасць грамадскага кантролю за мясцовымі ўладамі і бюджэтамі; і няўвага ды непавага да людзей; і дыктат — ідэалагічны, культурны, моўны… Становішча на канкрэтным прадпрыемстве: заробкі, беспрацоўе, непразрыстая прыватызацыя. Цэны, мясцовы рынак, беды дробных прадпрымальнікаў. Карупцыя. Сацыяльныя кантрасты (як катэджы ля азёраў). Палітычны пераслед і палітычныя вязні. Але ўсюды павінны быць мясцовыя факты.

**ХТО ЎДЗЕЛЬНІЧАЕ**

Грамадзяне Беларусі, якія хочуць зрабіць краіну лепшай. Любога ўзросту, месца жыхарства, партыйнасці і палітычных поглядаў, суджаныя або не. Адзінае абмежаванне — удзельнікі не павінны быць прафесійнымі журналістамі.

**МАТЭРЫЯЛ:**

● не публікаваўся раней;

● розных жанраў: нататка, інтэрв'ю, рэпартаж, хроніка падзеяў, нарыс, спокліч, серыя інфармацыйных матэрыялаў, кліп, блог, відэаблог і г. д.;

● часткаю тэкставага матэрыялу могуць быць выявы (фатаграфіі, графікі, схемы, табліцы, лагатыпы, карыкатуры, плакаты і г. д.);

● можа быць рознага памеру;

● відэаматэрыял зняты любым чынам: відэа-, фота-, вэб-камерай;

● мае быць напісаны для пэўнай мэты: разавая публікацыя; незалежная газета ці мясцовае перыядычнае выданне; выданне малога накладу; мясцовы інтэрнэтавы рэсурс ды інш.;

● адкрыты для публікі.

Кожны матэрыял павінен пачынаць (суправаджаць) г. зв. лід: кароткае рэзюмэ, якое прыцягвае ўвагу, памерам да 250 знакаў.

**НАЙЛЕПШЫ МАТЭРЫЯЛ:**

● актывізуе і аб'ядное мясцовую грамаду;

● на тэму, якую не прапусцяць у афіцыйную прэсу ці на БТ;

● зразумелы мясцовым людзям, з пазнавальнымі імёнамі, фактамі і лічбамі;

● з беларускай мовай у якасці асноўнай (напр., у інтэрв'ю журналіст гаворыць на беларускай, а ягоны суразмоўца — як можа);

АЦЭНЬВАЦЬ матэрыялы будзе міжнароднае ЖУРЫ.

1. Двое пераможцаў атрымаюць ноўтбук і відэакамеру.

2. Дзесяць аўтараў з'ездзяць на кароткі стаж за мяжу.



3. Прынамсі дзесяць найлепшых матэрыялаў будуць прафесійна надрукаваныя і выдадзеныя на дысках.

**ЯК ПЕРАДАЦЬ**

Паслаць матэрыял і анкету на электронны адрас narodny.zurnalist@gmail.com ці на паштовы адрас а/с 24, 220002 г. Мінск да 18.00 1 лістапада. Паслаць тэкст можна і праз форму на сайце. Тэл. для даведак: +375 25 9981592

Мультымедыйныя файлы:

● Да 25 МБ файл любога відэа/аўдыяфармату (mpeg, avi, mp4, aac, mp3, wav, wmv) ці фатаграфіі (jpg, gif, tif, png) на электронны адрас narodny.zurnalist@gmail.com

● Больш за 25 МБ размясціць у інтэрнэце на сайтах Youtube, Vimeo, Vkontakte і паслаць спасылку на электронны адрас narodny.zurnalist@gmail.com

● або паслаць дыск на паштовы адрас а/с 24, 220002 г. Мінск

Пра сябе паведаміць:

● Імя і прозвішча або псеўданім;

● Звесткі для кантакту з аўтарам (эл. адрас — пажадана на gmail; калі трэба — паштовы адрас; калі трэба – мабільны і стацыянарны тэл., імя ў скайпе).

Арганізатары вышлюць пацвярджанне атрымання на пазначаны ў анкеце электронны адрас.

# У Заходняй Дзвіне патануў намеснік начальніка Верхнядзвінскага РАУС

**Човен з двума рыбакамі перакуліўся днём 13 кастрычніка на Заходняй Дзвіне каля вёскі Смулькава Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці.**

Адзін з рыбакоў 1978 года нараджэння, намеснік генеральнага дырэктара камерцыйнай структуры, здолеў самастойна выбрацца на бераг. Другі — 1977 года нараджэння, намеснік начальніка Верхнядзвінскага РАУС — патануў.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*

# На атлусценне ў Беларусі хварэе да 30% дарослага насельніцтва

На атлусценне ў Беларусі хварэе каля 30% насельніцтва, паведаміла начальнік аддзела харчавання РУП «Навукова-практычны цэнтр па харчаванні» НАН Беларусі Элеанора Капітонава на прэс-канферэнцыі ў Мінску 15 кастрычніка. Сярод дзяцей і падлеткаў гэты паказчык роўны 21%. Спецыяліст адзначыла, што размова ідзе пра выпадкі, калі дыягназ «атлусценне» пацверджаны, доля ж людзей з лішняй вагой у краіне значна большая.

Паводле звестак выбарачнага даследавання Нацыянальнага статыстычнага камітэта, на атлусценне хварэе 22% насельніцтва ва ўзросце 16 гадоў і старэй.

Галоўны пазаштатны гастраэнтэролаг Міністэрства аховы здароўя Юлія Гаргун адзначыла, што «статыстыка ў поўнай меры не адлюстроўвае рэальную сітуацыю». Каб дакладна меркаваць пра колькасць людзей з лішняй вагой і атлусценнем, неабходна «правесці папуляцыйнае даследаванне, у якім вызначыць паказчыкі, якія характарызуюць індэкс масы цела жыхароў Беларусі, стан харчавання».

Галоўны пазаштатны дыетолаг Міністэрства аховы здароўя Марыя Папова адзначыла, што беларусы набіраюць лішнюю вагу, «бо ў большасці выпадкаў харчуюцца няправільна з прычыны рытму жыцця, які вядуць, і спажывання прадуктаў, якія выбіраюць». У ліку праблем арганізацыі харчавання Папова назвала традыцыю ў значнай часткі насельніцтва не снедаць, на працягу дня харчавацца перакусамі, пераядаць вечарам і ў выхадныя дні. «Атрымліваецца, доступ да добрых прадуктаў ёсць, асартымент разнастайны, у большасці людзей ёсць фінансавая магчымасць іх набываць, але няма часу прыгатаваць і з'есці. Атрымліваецца такое замкнутае кола», — сказала Папова.



*Алена Спасюк, БелаПАН.*

# Паводле даных перапісу насельніцтва, большасць жыхарак сельскай мясцовасці знаходзіцца ў пажылым узросце

**Большасць жыхарак сельскай мясцовасці ў Беларусі знаходзіцца ў пажылым узросце. Такую выснову зрабілі ў рэсурсным цэнтры ЮНФПА на падставе перапісу насельніцтва 2009 года. Інфармацыя падрыхтавана да Міжнароднага дня сельскіх жанчын, які адзначаецца 15 кастрычніка.**

Самы вялікі працэнт на вёсцы складаюць жанчыны, якім больш за 70 гадоў — 18%. Менавіта гэта ўзроставая катэгорыя і менш за ўсё адукаваная. Амаль кожная дзясятая (8%) сельская жанчына, якой больш за 70 гадоў, не мае ніякай адукацыі. Ва ўзросце 65—69 гадоў гэты працэнт складае 1,5%.

Паводле даных перапісу насельніцтва, у сельскай мясцовасці жыве прыкладна 1.300.000 жанчын. Іх амаль у тры разы менш, чым гараджанак.

Прыкладна 33% сельскіх жанчын старэй за працаздольны ўзрост, палове з іх — больш як 70 гадоў. 35% сельскіх жанчын маюць працу (супраць 48% гараджанак). Пасля дасягнення ўзросту выхаду на пенсію застаюцца працаваць 5% жанчын (24 тыс.) супраць 9% гарадскіх. Самая вялікая ўзроставая група беспрацоўных сярод эканамічна актыўных сельскіх жанчын — моладзь 20—29 гадоў (35% ад беспрацоўных усіх узростаў). Але практычна палова (624 тыс. — 48%) усіх сельскіх жанчын эканамічна не актыўныя. Асноўнай прычынай з'яўляецца выхад на пенсію (78% эканамічна не актыўных сельскіх жанчын), наступныя па рэйтынгу прычыны — вядзенне хатняй гаспадаркі і догляд за іншымі членамі сям'і (48 тыс. — 8%), атрыманне адукацыі (44 тыс. — 7%) і стан здароўя (28 тыс. — 4%).

Сучасныя вяскоўкі раней нараджаюць. Ва ўзросце 15—19 гадоў 6% жанчын, якія пражываюць у сельскай мясцовасці, маюць дзяцей (супраць 1% у горадзе). Ва ўзросце 25—29 гадоў маюць дзяцей большасць гараджанак і вяскоўак, але ў сельскай мясцовасці гэты працэнт вышэйшы — 73% супраць 62%.

«Статыстыка пра сельскіх жанчын Беларусі — гэта адлюстраванне тэндэнцый, якія адбываюцца ва ўсім свеце. Напрыклад, у шматлікіх краінах прызнана, што ў горадзе людзі больш адукаваныя, адкладаюць шлюб і нараджэнне дзяцей на пазнейшы тэрмін, з'яўляюцца больш актыўнымі ў эканамічным плане», — пракаментавала каардынатар праграм ЮНФПА ў Беларусі Таццяна Гаплічнік. Паводле прагнозу ЮНФПА, да 2050 года 70% насельніцтва будзе жыць у гарадах, а сельскае насельніцтва з 2005 па 2030 год скароціцца на 28 млн.

Упершыню Міжнародны дзень сельскіх жанчын адзначаўся 15 кастрычніка 2008 года.

*Марына Носава, БелаПАН.*



**Кліменцій Кожан,**
*м. Германавічы.*

# Зоська Верас

## *Да 120-годдзя з дня нараджэння*

**Споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння вядомай беларускай пісьменніцы і грамадскай дзеячкі Зоські Верас (Людвікі Антонаўны Сівіцкай). Яе легендарнае імя ведаюць у Беларусі, Літве, Латвіі, Польшчы і іншых краінах, дзе жывуць беларусы. Яе імя вядома ў многіх школах Беларусі, якім яна дапамагала арганізоўваць музеі, у навуковых установах, даследчыкі якіх звярталіся да пісьменніцы па самых складаных пытаннях беларускага палітычнага і культурнага руху.**

Нарадзілася Людвіка Антонаўна Сівіцкая 30 верасня 1892 года ў мястэчку Меджыбож Лятычаўскага павета Падольскай губерні (цяпер Жытомірскай вобласці) на Украіне, у сям'і афіцэра царскай арміі Антона Сівіцкага, які паходзіў з Гродна. Маці Эмілія з Садоўскіх паходзіла з Сакольскага павета Гродзенскай губерні, дзе яе бацькі мелі невялікі фальварак Альхоўнікі.

Кожнае лета Людвіка з маці праводзілі ў Сакольскім павеце, наведвалі і дзядоў у Гродне.

Хоць дома гаварылі па-польску, бацька палякам сябе не лічыў. Ён лічыў сябе ліцвінам, падобна, як Адам Міцкевіч лічыў сваю бацькаўшчыну Літвой.

З любімымі паэтамі Адамам Міцкевічам і Уладзіславам Сыракомляй Людвіка пазнаёмілася маючы дзесяць гадоў. Тады чытала “Пана Тадэвуша”, седзячы на ўсходках ганку.

Любоў да паэзіі, да роднай прыроды прывілі юнай Людвіцы бацькі. Маючы 9-10 гадоў, Людвіка пачала пісаць вершы і апавяданні па-польску. Спачатку бацькі вучылі яе самі: бацька выкладаў матэматыку, а маці – іншыя прадметы. Толькі ў 1904 годзе маці з Людвікай выехала ў Кіеў, дзе Людвіка паступіла ў прыватную гандлёвую школу Людмілы Мікалаеўны Валадкевіч. Тут была багатая бібліятэка з кнігамі на розных мовах, былі кабінеты фізікі, хіміі, біялогіі, фатаграфічная лабараторыя. Абавязковымі мовамі былі руская, французская, нямецкая, неабавязковымі – англійская і польская. Пачынаючы з 3-га класа, вучні вялі класны часопіс. Праводзіліся экскурсіі, у час якіх ішлі заняткі па прыродазнаўчых прадметах. Працавалі гурткі: фізічны, хімічны, біялагічны, літаратурны і іншыя. “Вось тады ў школе зарадзілася ў мяне зацікаўленне літаратурай і прыродай, а таксама прывычка працы ў гуртках”, - успамінала Людвіка Антонаўна.

У 1906 годзе першы раз трапілі ў рукі Людвікі кнігі “Дудка беларуская”, “Смык беларускі” і газета “Наша Ніва”. Яны вельмі яе ўразілі і спадабаліся ёй, таму ў класнай рабоце па польскай мове “Характарыстыка Літвы” Людвіка старалася высвятліць розніцу паміж літоўцамі і беларусамі на аснове мовы гэтых народаў.

Аднак навуку ў гэтай школе нечакана прыйшлося спыніць. У лістападзе 1907 года раптоўна памёр бацька Людвікі. Аставацца далей у Кіеве ёй з маці не хацелася. Цягнула да сваіх. Вясной 1908 года Людвіка з маці пасля сканчэння 4 класа прыехала на Гродзеншчыну.

У 1909 годзе Людвіка паступіла ў 6 клас прыватнай жаночай гімназіі Кацярыны Баркоўскай. Праграма гэтай гімназіі больш адпавядала праграме кіеўскай школы, чым у дзяржаўных гімназіях. У тым жа 1909 годзе арганізаваўся Гродзенскі гурток беларускай моладзі. На арганізацыйным сходзе Людвіку выбралі бібліятэкаркай гуртка. У хуткім часе яна завязала перапіску з Віленскай беларускай кнігарняй, рэдакцыяй “Нашай Нівы”, суполкай “Загляне сонца і ў наша ваконца” ў Пецярбургу. Пазней пазнаёмілася асабіста з віленскімі беларусамі. Перапісвалася з Іванам Луцкевічам, Вацлавам Ластоўскім, Аляксандрам Уласавым. Людвіка пісала вершы ў “Нашу Ніву”. Першы з іх быў надрукаваны ў 1911 годзе пад псеўданімам Мірко.

У 1912 годзе Людвіка скончыла гімназію, а ў наступным годзе выехала ў Варшаву, на 10-месячныя курсы агародніцтва, садоўніцтва і пчалярства. Адначасова скончыла ваенныя санітарныя курсы. Узяцца за больш салідную навуку не дазваляла здароўе. У гэты ж час Людвіка Антонаўна пачала складаць батанічны зельнік, ставячы на першае месца назвы раслін на беларускай мове. Падчас Першай сусветнай вайны зельнік знішчыўся, але запісаныя назвы раслін засталіся.

Скончыўшы курсы, 1 ліпеня 1914 года Людвіка Антонаўна атрымала пасведчанне аб'ездовага інструктара і хацела прайсці дзе-небудзь аднагадовую практыку. Аляксандр Уласаў радзіў ёй паехаць у Лябёдку, маёнтак Леанарда Іваноўскага, даў ёй адпаведную рэкамендацыю. Леанард Іваноўскі адказаў, што месца ёсць і можа прыняць.

Але пачалася Першая сусветная вайна. Прыйшлося практыкавацца ў свайго дзеда ў Альхоўніках, які быў добрым садоўнікам і пчаляром. У вольны час Людвіка Антонаўна запісвала назвы раслін, песні, прыпеўкі, загадкі.



Зоська ВЕРАС(Людвіка Антонаўна СІВІЦКАЯ-ВОЙЦІК) – беларуская пісьменніца і грамадская дзяячка.

Хутка фронт падышоў пад самыя Альхоўнікі, і Людвіка Антонаўна з маці апынуліся ў Мінску. Яна пачала тут працаваць у Камітэце Таварыства помачы ахвярам вайны і іншых беларускіх арганізацыях (у Беларускім нацыянальным камітэце, у Цэнтральнай радзе беларускіх арганізацый, у Вялікай беларускай радзе, у Беларускай сацыялістычнай грамадзе – усюды сакратаркай). Праца ў Людвікі Антонаўны часта мянялася. Ішла туды, дзе была больш патрэбная. Была загадчыцай сталовак, пасля загадчыцай дзіцячага прытулку, ткацкай майстэрні, скарбнікам…



Л.А. Сівіцкая (у сцэнічным касцюме) – сябар і калега Максіма Багдановіча па працы ў Мінскім аддзеле Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў 1916 г., беларуская грамадска-культурная дзяячка, пісьменніца Зоська Верас. 1913 г.

Камітэт помачы ахвярам вайны правёў 6-тыднёвыя курсы агародніцтва і пчалярства для бежанцаў. Заняткі вяліся на беларускай мове, а дазвол на курсы быў атрыманы ад Міністэрства земляробства.

У Мінску Людвіка Антонаўна пазнаёмілася з многімібеларускімідзеячамі: З.Бядулем і яго сёстрамі, Ядвігіным Ш. (Лявіцкім) і яго дачкой Вандай, З. Галубком, А. Смолічам, У. Фальскім і М. Багдановічам. Пра Максіма Багдановіча Людвіка Антонаўна напісала цікавыя ўспаміны. Яны былі надрукаваны ў часопісе “Маладосць” пад назвай “М.Багдановіч. 5 месяцаў у Менску”.

Людвіка Антонаўна ў Мінску пісала вершы, імпрэсіі. Яна пачала тады карыстацца псеўданімам Зоська Верас. Зоська – гэта другое імя Людвікі Антонаўны, а верас – расліна, якую яна вельмі любіла.

У 1917 годзе Людвіка прымала ўдзел ва Усебеларускім з'ездзе рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэлегатаў, была яго сакратаром. Восенню 1918 года яна з маці вярнулася ў родную Сакольшчыну. У Мінску застаўся яе муж Фабіян Шантыр, юрыст, публіцыст, камісар па справах нацыянальнасцяў у першым беларускім урадзе Зміцера Жылуновіча. Людвіка Антонаўна яго больш не ўбачыла. Фабіяна Шантыра ў 1920 годзе расстралялі бальшавікі. У 1919 годзе ў Людвікі Антонаўны нарадзіўся сын Антон, які не ведаў свайго бацькі. Яна з сынам жыла ў дзедавым фальварку Альхоўніках. Дзед памёр у 1922 годзе. Альхоўнікі прыйшлося прадаць. Людвіка Антонаўна з маці і сынам у канцы 1923 года пераехалі ў Вільню і з таго часу жылі там. Аднак Альхоўнікі яна ўспамінала усё жыццё: дом і сад, ліпавыя прысады, сажалку. У Вільні Людвіка Антонаўна пачала працаваць адміністраткай у рэдакцыі грамадскіх газет на вуліцы Віленскай, 12. Тут яна сустрэлася з Антонам Луцкевічам, пазнаёмілася з Браніславам Тарашкевічам і іншымі беларускімі дзеячамі. Людвіка насіла харчовыя перадачы палітычным вязням, дабівалася ў пракуратуры дазволу на перадачу ім кніжак, паштовай паперы. У турме на Лукішках тады сядзела нямала беларусаў, сярод іх Міхась Машара, Антон Войцік і іншыя.

У 1924 годзе быў выдадзены ў Вільні газетай “Голас Беларуса” “Батанічны слоўнік”, складзены Зоськай Верас. Яна разам са студэнтам-украінцам Міхаілам Бароўскім працавала над кнігай “Мёдадайныя расліны”. Міхаіл Бароўскі пісаў па-украінску, а Зоська Верас – па-беларуску. Але лёс іх працы быў розны. Міхаіл Бароўскі дапрацаваў і выдаў у Львове багата ілюстраваную кнігу, а праца Зоські Верас друкавалася пакрысе на старонках часопіса “Беларуская борць” і то не ўся. Старонкі рукапісу, якія засталіся, Зоська Верас перадала ў аддзел рукапісаў Акадэміі навук Беларусі.

У 1926 годзе Людвіка Антонаўна выйшла замуж за Антона Войціка, які працаваў у беларускіх газетах, за што не раз апынаўся ў турме. За грошы, атрыманыя ад продажу Альхоўнікаў, купілі домік і дзялянку зямлі ў Чыгуначнай Калоніі (цяпер Павільнюс).

Зоська Верас друкавала свае творы ў студэнцкіх часопісах “Наш шлях” і “Студэнцкая думка”, у часопісе “Родныя гоні”. Гэта былі імпрэсіі-абразкі “Сум”, “Ночы”, “Вецер выў”, “Мыслі”, “Рыбкі” і іншыя.

У гэты час Зоська Верас выступала са сваімі творамі на літаратурных вечарах, якія адбываліся ў Вільні ў Таварыстве беларускай школы, ці ладзіліся Студэнцкім Саюзам.

Пасля разгрому Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), калі ўсе грамадаўскія газеты былі закрытыя, Зоська Верас пачала ў 1927 годзе выдаваць і рэдагаваць дзіцячы часопіс “Заранка”, а таксама “Гаспадарскі аддзел” – дадатак да газет, адзін раз у месяц. “Заранка” выходзіла на працягу трох гадоў. Дапамагаў Пасольскі клуб (30 злотых). Потым гэта дапамога спынілася. У “Заранцы” супрацоўнічалі Міхась Машара, Міхась Васілёк, С.Новік-Пяюн, Л. Бярозка (А.Смаршчок), Х. Ільяшэвіч і іншыя. Але найбольш пісалі для “Заранкі” сама Зоська Верас і яе муж Антон Войцік. Апавяданні, якія Зоська Верас пісала для “Заранкі” і “Пралесак”, вучылі любіць прыроду, давалі дзецям шмат цікавай інфармацыі, заклікалі берагчы расліны, звяроў і птушак, захоўваць традыцыі. Пісала Зоська Верас для гэтых часопісаў і навукова-папулярныя артыкулы аб прыродзе. Друкаваліся таксама яе вершы, поўныя пачуцця любові да прыроды. “Заранка” карысталася поспехам сярод вясковых дзяцей. Аднак грошай не хапала. Дапамога дзяцей не выратавала “Заранку”. Калі ў 1927 годзе пабачылі свет 9 нумароў часопіса, то ў 1928 годзе – 4 нумары, у 1929 годзе – 3 нумары, а ў 1931 годзе пасля выхаду двух нумароў выданне “Заранкі” спынілася.

Нястомная Зоська Верас не траціла надзеі, і ў 1934-1935 гадах беларускія дзеці гарталі старонкі новага дзіцячага часопіса “Пралескі”. Дапамагаў выдаваць часопіс ксёндз Гадлеўскі, але ён выдаваўся нядоўга.

*Працяг будзе.*

